# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№9 (208)

верасень 2019

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:





Старшыня Таварыства беларускай культуры Іда-Вірумаа "БЭЗ" Зінаіда Клыга і старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ніна Шыдлоўская

Фота: Віктар Бойкачаў

# БЕЛАРУСКА-ЭСТОНСКАЕ ЗГУРТАВАННЕ АДЗНАЧЫЛА СВОЙ 30-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ

Шмат гадоў таму, напярэдадні здабыцця незалежнасці нашымі Рэспублікамі – Эстонскай і Беларускай – у павеце Іда-Вірумаа ўзбуяў "БЭЗ". Гэтае найцудоўнейшае суквецце праз усе трыццаць гадоў свайго красавання нязменна пакідала самыя цёплыя ўспаміны ў душы кожнага, хто пазнаёміўся з гэтай арганізацыяй. Пахваліцца, што супрацоўнічалі з "БЭЗам", сёння могуць не толькі эстонцы, але і латышы, літоўцы, расійцы і нават амерыканцы. Але, назіраючы за поспехамі Беларуска-Эстонскага Згуртавання, адмысловыя гонар і радасць адчуваюць усё ж беларусы – незалежна ад краіны пражывання.

Колішняя патрыятычная ініцыятыва беларускай інтэлігенцыі Эстоніі за гэтыя гады ўвасобілася ў дзясяткі паспяховых праектаў і сотні правbooedзеных імпрэзаў, натхніла на стварэнне новых нацыянальных суполак беларусаў з іншых эстонскіх гарадоў. Праз увесь гэты час не змаўкае спеў ансамблю "Бэз" пад кіраўніцтвам спадарыні Зінаіды Клыгі, не перапыняецца традыцыя святкавання нашых беларускіх святаў і гістарычных угодкаў у Эстоніі, а беларусы краінаў Балтыі жывуць успамінамі і чаканнем новых фэстаў "Родныя напевы" і "Усмешка па-беларуску". Сябры "БЭЗу" не толькі захоўваюць і прапагандуюць беларускую культуру ў замежжы, развіваюць сувязі з суайчыннікамі і спрыяюць нацыянальнай кансалідацыі, але і бяруць актыўны ўдзел у мясцовым дзяржаўным кіраванні. Лішне казаць, што ўсё гэта не апынулася па-за ўвагай эстонскай дзяржавы і таксама было з ейнага боку належным чынам уганаравана.

А для нас дзейнасць "БЭЗу" – не толькі прыклад і крыніца натхнення, як для многіх іншых беларускіх суполак у свеце. Гісторыя Беларуска-Эстонскага Згуртавання непарыўна звязаная з гісторыяй Згуртавання беларусаў свету: ваша арганізацыя стаяла ля вытокаў "Бацькаўшчыны" і, да таго ж, "БЭЗ" заўжды меў прадстаўніцтва ў яе Вялікай Радзе.

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" сардэчна віншуе ўсіх сяброў Беларуска-Эстонскага Згуртавання Іда-Вірумаа БЭЗ з юбілеем! Ад усяго сэрца жадаем вам яшчэ большага натхнення, новых поспехаў і яскравых падзеяў у жыцці супольнасці! Беларусы ўсяго свету ўдзячныя вам за беларускую справу, якую вы разам з усімі робіце.

**Уражанні ўдзельнікаў глядзіце на старонцы 2.**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# БЕЛАРУСКА-ЭСТОНСКАЕ ЗГУРТАВАННЕ АДЗНАЧЫЛА СВОЙ 30-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ

Працяг са старонкі 1.

**Зінаіда Клыга,** старшыня Таварыства беларускай культуры Іда-Вірумаа "БЭЗ":

Насамрэч юбілей Беларуска-Эстонскага Згуртавання Іда-Вірумаа БЭЗ прыходзіцца на канец сакавіка, і ў сакавіку мы паспелі сціпла адзначыць пачатак трыццаць першага году нашага існавання. Якраз тады ў нас былі "ўлазіны" ў новае памяшканне. Але паколькі задума правесці ў верасні IV Фестываль беларускай песні "Родныя напевы" была ўжо тады, мы і вырашылі заадно публічна адзначыць 30-годдзе БЭЗа, 50-годдзе ансамбля "Бэз" і 150-гадовы юбілей традыцыі спеўных святаў у Эстоніі.

Мне здаецца, што ўсё атрымалася правесці на вельмі добрым узроўні. Як звычайна, на фестываль мы запрасілі іншыя беларускія суполкі Эстоніі. Не абышлося без адкрыццяў – гэтым разам нашы слухачы ўпершыню пачулі выступ тартускай суполкі "Спадкі", з якой мы два гады знаёмыя. А таксама з дзяўчынай з зусім маладой суполкі "Пялёстак". Прыехалі нашы старыя "Сябры" з Нарвы, якім хутка ўжо споўніцца дваццаць гадоў. Была суполка "Лёс" з Таліна, суполка з Маарду "Ялінка". Да нас далучыліся зборны ансамбль з валаснога Народнага дому Таміку і клуб гумару гульні і песні "Хмелеўскія валацугі", яны вельмі ўсіх развесялілі.

Канцэрт атрымаўся элегантны. У адной палове выступалі нашыя суполкі, а ў другой – сапраўдная зорка Ірэна Катвіцкая. У Ірэну я проста закахалася. Яна прынесла на наш фестываль тую ноту сапраўднасці, этнічнасці, якой нам так не хапае ўдалечыні.

Мы атрымалі шмат віншаванняў, і да канцэрту, і падчас яго. І ад "Бацькаўшчыны", і ад пасла Беларусі ў Эстоніі Вячаслава Качанава, ад кіраўніцтва нашага і суседніх гарадоў.

**Ірэна Катвіцкая,** спявачка, кампазітар, этнамузыколаг:

Я вельмі ўдзячная, што старшыня Рады "Бацькаўшчыны" Ніна Шыдлоўская запрасіла мяне на гэтае святкаванне ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Дзякуючы гэтаму я ўпершыню пабывала ў Эстоніі і пабачыла, як там жывуць людзі, як развіваецца эстонская культура, а таксама даведалася, як пачуваюцца беларусы і іншыя нацыянальнасці. Фармат нашай вандроўкі, хай яна і доўжылася ўсяго пяць дзён, усё ж дазволіў пазнаёміцца з архітэктурай, канцэртнымі заламі, прыродай, ацаніць эканамічны ўзровень і паназіраць за штодзённым побытам жыхароў гэтай балтыйскай краіны.

Вельмі ўразіла і спадабалася, што ў Эстоніі няма адчування адчужанасці ўладнай "вертыкалі". Усе сувязі "гарызантальныя". Чыноўнікі з міністэрстваў, розных фондаў, прадстаўнікі мэрыі, як высветлілася, могуць пачаць вырашаць праблему, якую ім сфармулюе, напрыклад, звычайная школьная настаўніца падчас сумеснага банкету. Яны па-простаму ўсё абмяркоўваюць, і мясцовае кіраванне там мае вельмі вялікую вагу.

Я нарэшце асабіста пазнаёмілася са спадарыняй Зінаідай Клыгай. Для мяне яна знакавая асоба, але да гэтага часу мы стасаваліся толькі праз месенджары.

У першы дзень праходзіў IV фестываль "Родныя напевы Іда-Вірумаа", прысвечаны беларускім дыяспарам. Сабраліся беларускія калектывы з Тарту, з Нарвы, з Таліна, з Йыхві... А на другі дзень быў XVI мультыкультурны фестываль "Festival Rahvuskultuuride loomepada", які праходзіў пры падтрымцы мэрыі горада Йыхві ў вялікай зале на 600 месцаў з добрым гукам. На ім былі прадстаўленыя ўсе нацыянальнасці, якія жывуць у Эстоніі – асабіста ў мяне атрымалася паразмаўляць з прадстаўнікамі ўкраінскай дыяспары, яўрэйскай, татарскай... Высветлілася, што нацыянальныя меншыні ў Эстоніі падтрымлівае адмысловы дзяржаўны фонд, бо гэта выгадна для дзяржавы: адчуваючы падтрымку сваёй нацыянальнасці з боку Эстоніі, грамадзяне ўсіх нацыянальнасцяў, у сваю чаргу, падтрымліваюць Эстонію.

Таксама на другі дзень я ўзяла ўдзел у культурніцка-навуковай канферэнцыі "Свята песні як носьбіт культурнай ідэнтычнасці", дзе распавяла пра сучасны стан беларускага фальклору і свае музычныя праекты, у якіх фолк інтэгруецца ў новыя кірункі музыкі – world-music, ethno-jazz, folktronika... Таксама я развіваю кірунак арт-фольк-тэрапіі, займаюся гэтым сумесна з Нацыянальным цэнтрам рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў.

У мяне засталося адчуванне, што сваім удзелам у мерапрыемстве мы з Нінай Шыдлоўскай зрабілі нейкі станоўчы ўплыў на беларускую культуру Эстоніі, у адносіны паміж дзяржавай і дыяспарай. Прадстаўнікі міністэрства культуры вельмі зацікавіліся маім выкананнем аўтэнтычных акапэльных спеваў, і цяпер мы рыхтуем наступныя канцэрты на фестывалях краіны. Я нават атрымала прапанову да ўдзелу ў мерапрыемствах украінскай дыяспары, бо маем вельмі блізкія карані ў нацыянальных культурах.

Інфармацыйны цэнтр
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"



Ірэна Катвіцкая

Фота: Віктар Бойкачаў

# 22 ВЕРАСНЯ Ў НЬЮ-ЁРКУ ПРЭЗЕНТАВАЛІ КНІГУ "ЗОРА КІПЕЛЬ"



Прэзентацыя кнігі, якой сёлета была запачаткаваная падсерыя "Людзі эміграцыі" ў "Бібліятэцы Бацькаўшчыны", прайшла ў Гайленд Парку.

Удзел у ёй бралі ўкладальнікі – вядомыя даследчыкі эміграцыі Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч, – а таксама сям'я Кіпеляў, Янка Запруднік, Ала Орса-Рамана, Валянціна Трыгубовіч і іншыя. Атрымалася душэўная размова пра спадарыню Зору.

Паводле Наталлі Гардзіенка

Фота Серж Трыгубовіч



# ФІЛЬМ "ВОЗЕРА РАДАСЦІ" АТРЫМАЎ УЗНАГАРОДЫ НА КІНАФЕСТЫВАЛІ Ў ЗША

Пісьменнік Віктар Марціновіч паведаміў у Facebook, што фільм "Возера радасці", які быў зняты паводле ягонага аднайменнага раману, атрымаў узнагароду на кінафестывалі ў Невадзе:

Фільм Lake of Happiness Аляксея Палуяна па маім рамане "Возера Радасці" атрымаў узнагароды "Best of the Fest" and "Best Narrative" на кінафестывалі ў Невадзе (ЗША). Сардэчна віншую Аляксея, Насту і ўсю здымачную групу!

Праз два тыдні фільм будзе паказаны на Drama International Short Film Festival у Грэцыі, пасля будзе гішпанская прэм'ера ў Галісіі (FICBUEU), пасля партугальская прэм'ера ў Порту Beast International Film Festival, пасля зноўку Францыя – Dijon Film Festival, пасля адбудзецца нямецкая прэм'ера на Hof International Film Festival, самым олдскульным фэсце, створаным у 60-я бацькамі нямецкай новай хвалі Фасбіндэрам, Хэрцагам, Вэндарсам як канкурэнт Берлінале для прасоўвання новага аўтарскага нямецкага кіно. На дадзены момант фільм быў паказаны на трох акрэдытаваных "Оскарам" фестывалях і адмыслоўцы кажуць пра вялікую імавернасць высоўвання яго на ўзнагароду Кінаакадэміі ў наступным годзе.

У Беларусь "Возера Радасці" прыедзе ў лістападзе.

# ГАЛОЎНАЯ ГЕРАІНЯ "ВОЗЕРА РАДАСЦІ" ПРЫЗНАНА НАЙЛЕПШАЙ АКТРЫСАЙ НА ФЕСТЫВАЛІ КАРОТКАМЕТРАЖНАГА КІНО Ў ІСПАНІІ

Беларуска Наста Пляц атрымала прыз Best Actress на фестывалі кароткаметражнага кіно ў Іспаніі, паведаміў у Facebook пісьменнік Віктар Марціновіч.

"Адбываецца нешта неймавернае: Наста Пляц, дзяўчынка, якая з трох гадоў жыла ў Магілёўскай SOS-вёсцы, толькі што атрымала прыз Best Actress на іспанскім фестывалі FICBUEU за ролю Ясі ў фільме «Возера радасці", – напісаў Віктар у Facebook.

FICBUEU – фестываль кароткаметражнага кіно, у якім могуць браць удзел усе віды мастацкіх кароткаметражных фільмаў незалежна ад жанру, за выняткам дакументальных.

"Возера радасці" – раман Віктара Марціновіча, што выйшаў у 2016 годзе. Кароткаметражку па кнізе зняў Аляксей Палуян. Музыку напісаў Сяргей Доўгушаў.

nn.by



# У БЕЛАРУСІ ЎЗМОЦНЯЦЬ РАБОТУ ПА ВЯРТАННІ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ

У Беларусі ўзмоцняць работу па вяртанні гісторыка-культурных каштоўнасцей. Гэта тэма абмяркоўвалася 19 верасня ў Міністэрстве замежных спраў на пасяджэнні Камісіі па выяўленні, вяртанні, сумесным выкарыстанні і ўвядзенні ў навуковы і культурны абарот культурных каштоўнасцей, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе МЗС.

У час пасяджэння члены камісіі з удзелам шырокага кола запрошаных экспертаў абмеркавалі праблему перамешчаных з мінскіх музеяў у час Другой сусветнай вайны культурных каштоўнасцей, што апынуліся ў іншых краінах, і адзначылі важнасць своечасовага напаўнення зацікаўленымі і адказнымі ўстановамі Беларусі базы даных інтэрнэт-партала "Вяртанне".

"Удзельнікі мерапрыемства далі некалькі рэкамендацый па актуалізацыі дзейнасці камісіі і прапанавалі новыя напрамкі яе работы, у тым ліку па ўстанаўленні ўзаемадзеяння і пашырэнні супрацоўніцтва з замежнымі бібліятэкамі, архівамі і музеямі", – расказалі ў МЗС.

Закраналася пытанне аб наглядзе і падтрыманні ў належным стане месцаў пахавання за мяжой вядомых беларусаў, абмеркаваны магчымыя меры па іх добраўпарадкаванні.

Камісія была створаная ў 2009 годзе пры Савеце Міністраў. Яна вызначае прыярытэтныя напрамкі і формы дзейнасці па выяўленні, вяртанні, сумесным выкарыстанні і ўвядзенні ў навуковы і культурны абарот культурных каштоўнасцей, што знаходзяцца за межамі краіны. Камісія можа ўносіць ва ўрад адпаведныя прапановы, а таксама забяспечвае ўзаемадзеянне дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, іншых юрыдычных асоб у гэтай сферы. У склад органа ўваходзяць прадстаўнікі міністэрстваў замежных спраў, культуры, інфармацыі і фінансаў, Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, Нацыянальнай бібліятэкі, Беларускага фонду культуры.

БЕЛТА

**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

# ПРЭМІЮ ІМЯ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ АТРЫМАЛА МАРЫЯ МАРТЫСЕВІЧ




10 верасня, у кавярні "Грай" прайшла цырымонія ўручэння паэтычнай прэміі імя Наталлі Арсенневай. Атрымала прэмію Марыя Мартысевіч за сваю кнігу "Сарматыя".

У кароткі спіс прэтэндэнтаў на ўзнагароду таксама ўваходзілі: Уладзімір Арлоў "Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань" і Надзея Артымовіч "Краявід з невідочнай памылкай".

У склад журы прэміі сёлета ўвайшлі паэт і загадчык літаратурнага музея Максіма Багдановіча Міхаіл Бараноўскі, паэтка, перакладчыца і літаратуразнаўца Марыяна Кіяноўская, літаратуразнаўца і доктар філалагічных навук Анжэла Мельнікава, паэтка і бард Лера Сом, паэт і арганізатар літаратурных мерапрыемстваў Дзмітрый Строцаў.

Арганізатары прэміі – Беларускі ПЭН-цэнтр, ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Узнагарода была ўручаная пры падтрымцы Фонду культуры і адукацыі Орса-Рамана і Харытатыўнага фонду Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі і сёлета склала 4000 беларускіх рублёў.

**budzma.by**

# У ЧАРНІГАВЕ АДБЫЎСЯ XIV МІЖНАРОДНЫ ФАЛЬКЛОРНЫ ФЕСТЫВАЛЬ "ПАЛЕСКІ КРУГ"

24 жніўня на Зялёнай сцэне прайшоў XIV Міжнародны фальклорны фестываль нацыянальных культур "Палескі круг".

Цягам дня жыхароў Чарнігаўшчыны і гасцей горада з аўтэнтычнай музыкай, песеннай спадчынай, танцамі і прыгажосцю нацыянальнага адзення знаёмілі творчыя калектывы і асобныя выканаўцы – прадстаўнікі адзінаццаці этнічных груп, таленты з нацыянальных і культурных таварыстваў Чарнігава і Чарнігаўскай вобласці.

Беларускае нацыянальна-культурнае таварыства "Сябры" выступіла з беларускімі народнымі песнямі і вершамі, а таксама зладзіла выставу сувеніраў і кніг пра Беларусь. Удзельнікі атрымалі дыпломы фестывалю "Палескі круг".

Упершыню Міжнародны фальклорны фестываль нацыянальных культур "Палескі круг" адбыўся ў 2005 годзе, яго мэта – адлюстраваць разнастайнасць украінскай культуры праз прызму культур нацыянальных меншасцей, а таксама прасоўваць ідэю міжнацыянальнага адзінства і прынцып талерантнасці да прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў, якія пражываюць ва Украіне.

**Галіна Варажбіт**



# УЗНАГАРОДЖАНЫЯ МЕДАЛЁМ ДА СТАГОДДЗЯ БНР У ВЕРАСНІ



Рада БНР працягвае ўручаць Медалі да стагоддзя БНР. Цягам верасня заслужаную ўзнагароду атрымаў шэраг беларускіх дзеячаў.

Алена Анісім – старшыня Таварыства беларускай мовы (ТБМ), дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Алег Трусаў – археолаг, гісторык, адзін з заснавальнікаў ТБМ, дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання.

Алесь Бяляцкі – праваабаронца, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека.

Ірына Дубянецкая – тэолаг, бібліст, філосаф, адна з заснавальніц руху за адраджэнне беларускай грэка-каталіцкай царквы ў канцы 80-х гадоў, акадэмічны дырэктар Беларускага калегіюму.

Орэст Дэйчакіўскі – экспэртпалітолаг, дарадца АБСЭ.

Валер Булгакаў – гісторык, філосаф і выдавец.

Ігар Случак – грамадзкі дзеяч.

Аляксандар Смалянчук – гісторык.

**Паводле radabnr.org**

навіны

# "ЗА МІФАПАЭТЫЧНУЮ ТРАДЫЦЫЮ" – БЕЛАРУС ЗАМЕЖЖА ЗАНЯЎ ДРУГОЕ МЕСЦА НА СЁЛЕТНІМ "ГЕДРОЙЦЫ"

Галоўны прыз атрымаў Ілля Сін з раманам "Libido", а трэцяе месца заняла Алена Брава за кнігу "Садомская яблыня".

Міхал Андрасюк зазначыў, што нарадзіўся і ўсё жыццё пражыў у Польшчы – "адзінай краіне акрамя Беларусі, у якой беларуская літаратура не паўстае адзінкавымі эпізодамі, а мае трывалую традыцыю, пра што сведчаць сотні выдадзеных кніг".

Кніга Міхала Андрасюка "Поўня" акрамя другой прэміі "Гедройца" атрымала добрыя крытычныя водгукі і стала заўважнай падзеяй у беларускім літаратурным жыцці.

Прэмія імя Ежы Гедройца заснаваная Беларускім ПЭН-Цэнтрам, Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Польскім Інстытутам у Мінску і ўручаецца за найлепшую кнігу ў жанры мастацкай і дакументальнай прозы. Узнагарода мае статус галоўнай незалежнай літаратурнай прэміі Беларусі. Папярэднія пераможцы: Павал Касцюкевіч, "Зборная РБ па негалоўных відах спорту" (2012), Уладзімір Някляеў, "Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без" (2013), Ігар Бабкоў, "Хвілінка: Тры гісторыі" (2014), Віктар Казько, "Час збіраць косці" (2015), Макс Шчур, "Завяршыць гештальт" (2016), Зміцер Бартосік, "Быў у пана верабейка гаварушчы" (2017), Уладзімір Арлоў, "Танцы над горадам" (2018).

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**



Кіраўнік МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская, Міхал Андрасюк, старшыня ГА "Саюза беларускіх пісьменнікаў" Барыс Пятровіч, кіраўнік Беларускага Саюза ў Польшчы Яўген Вапа. За іх спінамі – старшыня Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы Алег Латышонак.

# НА СВЯЦЕ Ў МЁРАХ

Сябры беларускай суполкі "Уздым" з Даўгаўпілса паўдзельнічалі ў святочным канцэрце, які ладзіўся ў райцэнтры Мёры, на Віцебшчыне, у Дзень Незалежнасці Беларусі.

Дэлегацыя наша паўдзельнічала 3 ліпеня ў святочных імпрэзах у Дзень Незалежнасці, мы віншавалі жыхароў Мёраў са святам.

Спачатку была малітва ў капліцы Аляксандра Неўскага, потым — мітынг, ускладанне кветак да помніка воінам і партызанам, да мемарыяла "Чорныя цюльпаны". І вось ужо яркая калона дэлегацый, працоўных калектываў прадпрыемстваў і ўстаноў Мёраў, школьнікі з партрэтамі дзядоўпрадзедаў (усенародная акцыя на Бацькаўшчыне мела назву: "Беларусь памятае. Помнім кожнага"), жыхары горада на чале з яго кіраўніцтвам рушылі да памятнага знака ў гонар воінскіх частак, якія вызвалялі Мёры ад акупантаў. А пасля цырымоніі ўскладання кветак быў святочны канцэрт.




Гонар адкрыць яго выпаў дэлегацыі Даўгаўпілскага Цэнтра беларускай культуры, а таксама Беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым". Мы ж партнёры аддзела культуры Мёрскага райвыканкама. Жыхароў Мёрскага краю павіншавала дырэктар ЦБК і старшыня "Уздыму" Жанна Раманоўская. А праграму песняй "Крыніцы", прысвечанай малой радзіме, адкрыла салістка Настасся Лукашонак. Свае вершы чыталі паэты з таварыства "Уздым": Павел Плотнікаў, Лілія Воранава, Яўген Голубеў і Станіслаў Валодзька.

Потым гледачы ўбачылі музычна-тэатралізаванае прадстаўленне, што зладзілі мясцовыя таленты. Яно ўсхвалявала і кранала ўсіх да слёз.

Пасля канцэрта госці з Даўгаўпілса, а з намі разам Яўген Пашкевіч і Лідзія Знотыня са славянскага таварыства "Узоры" (латвійскі горад Ліваны) наведала гістарычны, краязнаўчы, кнігадрукарскі ды этнаграфічны музеі ў мёрскай школе, Беларускую хатку ў школьным двары. Шмат цікавага там расказаў гісторык і краязнаўца Вітаўт Ермалёнак. Экспазіцыю музеяў папоўнілі газеты "Уздыму", кніга "Беларускі кірмаш у Даўгаўпілсе". А на сустрэчы з Аляксандрам Тронькіным, які ўзначальвае аддзел культуры, ідэалогіі й па справах моладзі Мёрскага райвыканкама, гаварылі мы пра кірункі далейшай супрацы.

**Жанна Раманоўская,**
**старшыня Беларускага таварыства "Уздым",**
**"Голас Радзімы"**

гутарка

# "АНТВЕРПЕН – САЛІГОРСК", АБО ДЗВЕ РАДЗІМЫ ГАЛІНЫ МАЦЮШЫНАЙ

Чаму эмігранты з СНД у Еўропе галасуюць за ўльтраправых і трымаюцца ў сваіх "гета"? Ці можа эмігрант з Беларусі стаць у Антверпене дэпутатам? Як выхаваць беларусамі дзяцей у мультыкультурным асяроддзі? Пра гэта ды іншае – у размове з Галінай Мацюшынай, нашай зямлячкай, якая ўжо 20 гадоў жыве ў Бельгіі.




Галіна Мацюшына працавала начальніцай змены на "Беларуськаліі" ў Салігорску, але ў 1999-м разам з сям'ёй з'ехала ў Бельгію. Тады ёй было 37 гадоў. На новым месцы жанчына не толькі не разгубілася, але і занялася праблемамі мігрантаў, увайшла ў палітычныя колы і... нават стала дэпутатам!

Як гэта атрымалася?

Прапануем вашай увазе думкі ды рэфлексіі самой пані Галіны.

### Дарогі назад няма

Пераезд быў вельмі асабістым рашэннем: не палітычным, не эканамічным. Папярэдняя праца на "Беларуськаліі" была і прэстыжнай, і добра аплачванай, таму рэч не ў грашах. Выезд – гэта дарослае і адказнае рашэнне, якое пасля ўжо было цяжка змяніць: дарогі назад няма. А калі разам з сям'ёй, дзецьмі – гэта яшчэ цяжэй. Ведаеце, пасля 20 гадоў тут я разумею, што яшчэ адной эміграцыі я б, пэўна, не перажыла, гэта цяжкая справа.

### Адзіная замежная паездка – у ГДР па камсамольскай лініі

Самае складанае – перажыць першы культурны шок. Калі не разумееш, дзе ты, што ты, нейкія крамы, агні свецяцца, грошы іншыя... усё іншае. Мы, маё пакаленне, асабліва ж не выязджалі нікуды – гэта не тое, што цяпер. У маім атачэнні па пальцах можна было пералічыць людзей, якія бывалі за межамі Беларусі. Мая адзіная тады замежная паездка была па камсамольскай лініі ў ГДР – тады гэта здавалася цудам эканамічным, культурным.

### Працей трымацца расійскамоўнай суполкі

Мая прафесія – "горны ўзбагачальнік" – прадугледжвала адзін семестр замежнай мовы, а гэта ж нічога! Таму было складана. Але Бельгія дае шырокі спектр для вывучэння замежных моваў. У маёй частцы, у Фландрыі, гэта нідэрландская мова. Можна вучыць інтэнсіўна, хоць штодзень – залежыць ад твайго жадання. Наша ж праблема ў тым, што мы здольныя вучыцца, але цяжка ўваходзім у новае моўнае асяроддзе. Працей трымацца сваёй, напрыклад, расійскамоўнай суполкі, і ўсё.

### Фундамент – свая дыяспара

У Бельгіі на той момант ужо была беларуская дыяспара. Гэта яшчэ тыя людзі, што ў часы Другой сусветнай прыехалі, вучыліся ў Лювенскім універсітэце... Пасля развалу СССР была новая хваля з усяго СНД. Людзі гуртаваліся па нацыянальнай прыкмеце – так лягчэй зразумець адно аднаго, завязваць кантакты. Пазней гуртаваліся і з іншымі дыяспарамі, бо аб'ядноўваюць таксама і праблемы на новым месцы: як знайсці працу, вывучыць мову, застрахаваць аўто – гэта актуальныя для ўсіх пытанні. Але фундамент – свая дыяспара.

### Задача: дапамагчы мігрантам інтэгравацца

Па спецыяльнасці я больш ніколі не працавала, але тыя навыкі кіравання на вялікім прадпрыемстве, арганізатарскі досвед, напэўна, прыдаліся. Ужо 20 гадоў я працую тут у сацыяльным сектары. Ёсць такі дэкрэт пры дэпартаменце аднаго з міністэрстваў – сацыякультурная праца для дарослых. У яго рамках існуюць федэрацыі, якія дапамагаюць арганізацыям мігрантаў знайсці сябе і развівацца праз жыццё ў сацыяльных арганізацыях.

Федэрацыя, у якой я працую ўжо шмат гадоў, – найбольшая ў Фландрыі. У яе ўваходзяць 350 арганізацыяў, з якімі мы заключаем дамову пра супрацу, разам вядзём вялікія праекты, дапамагаючы ім стаць моцнымі самастойнымі структурамі. Сёння я адказваю за 38 арганізацыяў. Калі коратка, то мы дапамагаем людзям інтэгравацца ў бельгійскае і шырэй – у еўрапейскае грамадства. Для гэтага яны маюць разумець, як працуе дзяржава, службы, як аддаць дзяцей у школу і г.д.

### Чулі, што сказаў Пуцін, але не чулі, што сказаў бургамістр Антверпена

Праблема выхадцаў з СНД – вялікі ўплыў расійскіх СМІ. Думаю, іх глядзіць прыкладна 80%. З аднаго боку, у нас дэмакратыя: глядзі што хочаш. З іншага – гэта замінае рэальна ацэньваць сваё жыццё тут і адчуваць сябе еўрапейцам. Вельмі замінае! Часам смяюся, што шмат хто ведае, што сказаў Пуцін, але не ведаюць, што сказаў бургамістр Антверпена ці што тут, на суседняй вуліцы, адбылося.

Жывучы ў Еўропе, падарожнічаючы без візы, карыстаючыся іншымі дабротамі ЕС, людзі надалей жывуць у сваёй савецкай мікрапрасторы... Я працую не толькі з выхадцамі з СНД, але і з дыяспарамі Непала, Бангладэш, Конга. У Антверпене жыве амаль 180 нацыянальнасцяў, і кожная выбудоўвае сваю закрытую прастору, што робіць інтэграцыю неглыбокай. Усе кажуць на словах, што адкрытыя, але рэальна жывуць у сваіх мікрасусветах.

### Дом маці і дзіцяці, куды ніхто не ходзіць... Не ведаюць

Структура, у якой я працую, спрабуе гэта выпраўляць. Напрыклад, ёсць раён, дзе мы спрабуем неяк... змешваць людзей, падштурхоўваць да кантакту. Ёсць, скажам, дом маці і дзіцяці з вельмі добрай медыцынскай дапамогай, але туды ніхто не ідзе, бо не ведаюць, не інфармаваныя, самі не цікавяцца. Мы ж спрабуем даводзіць усе гэтыя рэчы, бо праблема акурат у адсутнасці ведаў.

### Штогод важу ўнукаў у Беларусь – ім падабаецца

Калі казаць пра захаванне ідэнтычнасці, то беларусам найцяжэй. Беларусы не прывезлі з радзімы глыбокай ідэнтычнасці з гістарычных прычынаў, палітыкі ў СССР і г.д. – гэта вядома. Так, тут ёсць беларуская царква, што працуе ўжо 16 гадоў, мы падтрымліваем магілы эмігрантаў старой хвалі, часоў Другой сусветнай. Але ва ўсё гэта заангажаваная мізэрная частка нашых мігрантаў. Крыўдна...

Як кажуць навукоўцы, трэцяя генерацыя перасяленцаў страчвае ідэнтычнасць. Трэба зрабіць вельмі шмат, каб нашыя дзеці хоць мінімальна захоўвалі гэтую памяць. Што рабіць? Камунікаваць з роднымі ў Беларусі, ездзіць туды, вазіць дзяцей на радзіму. Я ўнукаў штогод важу, ім падабаецца: у Беларусі яны маюць сяброў, ведаюць хай і пару слоўцаў на роднай мове. Мы ж, дарослыя, нясём за гэта адказнасць.

### Мігранты супраць мігрантаў?

Шэсць гадоў я была дэпутатам ад хрысціянскіх дэмакратаў у Антверпене: з 2012 па 2018 год. На гэтай пасадзе я спрабавала зрабіць як мага больш для нацыянальных меншасцяў і мігрантаў тут. Выбарцы ж, на жаль, усё часцей падтрымліваюць ультраправых. Тут такі парадокс: шмат хто з асяроддзя мігрантаў галасуе за партыі, якія заклікаюць пазбавіцца мігрантаў... Пытаюся: "Як так? Вы ж самі..." – "Не, – кажуць. – Мы даўно прыехалі, а во гэтыя..." Насамрэч гэта малаадукаванасць. Ну а выхадцы з СНД з вышэйшай адукацыяй наогул часцяком думаюць, што ўсё ведаюць і разумеюць, – нічога не давядзеш.

Апошнія выбары ў федэральны парламент у нас былі 26 траўня. Я не прайшла не таму, што набрала мала галасоў, проста само месца было непрахадным. Таму мы ў партыі вырашылі, што працуем на трох-чатырох топавых кандыдатаў. Мая ж пазі-

цыя ў партыі застаецца моцнай. Я надалей буду працаваць тут з тэмай мігрантаў.

### Не прыйшоў на выбары – штраф

У нас, вядома, поўная дэмакратыя – усё адкрыта. Можна нядорага зняць добрае памяшканне для сустрэчы з выбарцамі, агітаваць на вуліцах, рынках і г.д. З гэтай прычыны я заўжды з павагай гляджу на тых, хто займаецца палітыкай у Беларусі, бо там зусім іншыя ўмовы – паміж намі прорва. Бельгійцы ж, дарэчы, вельмі палітызаваныя – гэта адна з нешматлікіх краінаў у свеце з абавязковым галасаваннем. Не прыйшоў на выбары – атрымаў штраф.

### Распавесці пра садок, аптэку ды сустрэцца з участковым

Праблема міграцыі насамрэч існуе. Кожная дыяспара закрытая і адкрытая адначасна. Няма цікавасці ні ў бельгійцаў, ні ў нашых, каб будаваць змяшанае грамадства. Бельгійцам таксама нецікава ведаць свайго суседа і яго справы... Адзінае, што можна зрабіць – выбудоўваць маленькія групы праз мерапрыемствы, сустрэчы. На ўзроўні раёна ці трохчатырох дамоў. Там ужо распавядаць, як працуе дзяжурная аптэка, як запісаць дзіця ў садок (тут – праз інтэрнэт), сустрэцца з участковым. Гэта, так бы мовіць, інтэграцыя, заснаваная на супольных побытавых праблемах і пытаннях.

### Ем сала а 9-й вечара – адчуваю сябе беларускай!

Я працую ў такім тэмпе, што няма калі рэфлексаваць ці шкадаваць пра тое рашэнне аб пераездзе. У Беларусі засталіся сябры, справы, сумесныя праекты з НГА па гендарных пытаннях. Здаецца, калі ў пачатку гэтага году памерла маці, нагодаў прыязджаць стала меней, але... я ж усё адно люблю Беларусь, свой Салігорск, Мінск. Ніколі не шкадавала, што жыву тут, але ніколі і не выключаю магчымасці вярнуцца – у жыцці ўсё можа здарыцца. Ведаеце, як толькі самалёт апускаецца ў мінскім аэрапорце – гэта такі прыліў сілаў і пазітыўнай энергіі! Цэлы месяц з асалодай ем нашыя прадукты: гуркі з гарода, сала а 9-й вечара (смяецца). Тады адчуваю сябе сапраўднай беларускай! Але як толькі вяртаюся ў Бельгію, мне таксама добра і камфортна. Магу смела казаць пра дзве радзімы. Ганаруся, што і дзеці захавалі любоў да Беларусі.

**Алесь Кіркевіч, budzma.by**




**меркаванне**

# Віктар Марціновіч: УСЕБЕЛАРУСКІ ДОПЫТ ДАРМАЕДАЎ

Віктар Марціновіч разважае пра перапіс насельніцтва і пункт "родная мова".

Калі пра перапіс было ўжо заяўлена, а яго пытанні яшчэ не з'явіліся ў вольным доступе, я быў, дурань, падумаў, што яны нарэшце прачыталі "Уяўныя супольнасці" Андэрсана. Што скарыстаюць перапіс для ўмацавання беларускай ідэнтычнасці. Каб працпей было ладзіць перамовы з рознымі суседзямі.

Гэта, дарэчы, было б цалкам лагічным, але логіка – не пра гэтую сістэму.

Але вось працэс пайшоў, я адкрыў анлайн-анкету і прыпух. Я не ведаю, хто складаў пытанне нумар 12. Але нічога горшага для беларускай справы прыдумаць немагчыма. Яны ўдакладняюць, што "родная мова" – гэта "засвоеная першай у раннім дзяцінстве". І ладна, што гэтае ўдакладненне неяслушнае ці слушнае толькі ў межах адной з лінгвістычных парадыгмаў. Бо, напрыклад, рускі празаік Набокаў да эміграцыі мусіў бы пазначаць паводле такой логікі "роднай мовай" не рускую, а англійскую – тую, якую сапраўды засвоіў першай.

Але галоўная праблема ў тым, што з усіх падыходаў да паняцця "родная мова" яны абралі самы шкодны з пункту гледжання распаўсюду і бачнасці беларускай Беларусі.

Бо "родная мова" – гэта яшчэ пра наяўнасць унутранай эмацыйнай сувязі з маўленнем ці пра знешнюю ідэнтыфікацыю, прад'яўленне сябе навакольнаму свету "беларусам", "рускім", "украінцам".

І менавіта так можна было б сфармуляваць: якую мову вы лічыце роднай ці блізкай? З якой адчуваеце повязь? Але не, яны ўпёрліся ў "мову па сталенні".

Выдатна ведаючы, што для значнай часткі нават беларускамоўных першай засвоенай у дзяцінстве была руская. Калі сапраўднай мэтай гэтага перапісу было паказаць прыхільнікам інтэграцыі, што колькасць рускамоўных у Беларусі расце ў параўнанні з мінулым перапісам, – well done!

Што не дае мне пераймацца з нагоды пытання N12, дык гэта разуменне, што ў краіне, дзе няма выбараў і да перапісу трэба ставіцца як да сімуляцыі. Напішуць столькі, колькі будзе патрэбна ў бягучы момант геапалітычнага гандлю.

Тады навошта было рабіць гэтую глабальную і даражэзную штучку?

Адказ хаваецца ў пытаннях.

Вы ж заўважылі, што ў гэтым годзе перапіс супаў па часе з падаражэннем камуналкі для тых, каго дзяржава запісала ў дармаеды?

Дык вось, глядзіце: у анкеце няма ніводнага пытання пра тое, колькі замежных моваў ведае рэспандэнт. Гэта дзяржаве не важна.

Што ёй важна – гэта дзе дакладна вы жывяце, да якога тэлефоннага нумару прывязаны ідэнтыфікатар у вашым пашпарце, якой маёмасцю валодаеце, дзе працуеце. Ці плануеце выехаць з Беларусі (чытай – на падпрацоўкі)? Ці была ў вас праца з 27 верасня 2019 па 3 кастрычніка 2019 (чаму, дарэчы, такі перыяд?)? Як часта выязджалі на працу на тэрыторыю іншай дзяржавы?

Такіх пытанняў – дзве старонкі з чатырох у апытальным лісце (!).

Прачытайце гэтыя фармулёўкі: "Якія крыніцы сродкаў на існаванне ("укажыце асноўную крыніцу!)?" "Дзе ажыццяўляецца ваша праца?" Дзе знаходзіцца месца вашай працы?"

Прабачце, але толькі ў мяне адчуванне, што гэта не статыстыка?

Што гэта такі агульнарэспубліканскі допыт?

Аператыўна-следчае мерапрыемства, кшталту ўсеагульнага збору адбіткаў пальцаў?

Статыстыка заўсёды цікавіцца вялікімі лічбамі, а не асобным грамадзянінам. Колькі мільёнаў чалавек мае вышэйшую адукацыю, колькі жанатых, колькі замужам. Статыстыка не будзе з хцівасцю следчага лезці ў гісторыю тваіх банкаўскіх транзакцый, тваіх асабіста працадаўцаў, іх дакладнага адраса і г. д.

Навошта статыстыцы прывязка да тваёй міжбанкаўскай інфармацыі і індывідуальнага рахунку ў сістэме "Разлік"? Без чаго немагчыма задзейнічаць анлайн-анкету? І ці магу я быць спакойны за сакрэтнасць гэтай інфармацыі, адсутнасць уцечак, калі сайт перапісу 4-га кастрычніка проста "лёг"?

З усіх гэтых трывожных пытаннечак паўстае адчуванне, што гэты перапіс – падзея не сацыяльная, а фіскальная. Заўважым, што чарговы націск на дармаедаў нават не спрабавалі адвязаць ад выбараў. У лістападзе ў краіне з'явіцца новая Палата, а беспрацоўныя ўпершыню атрымаюць жыроўкі з непад'ёмнымі цэнамі.

Дык яны ўжо настолькі ўпэўненыя, што кантралююць ўсіх і кожнага?

Мне не падабаецца, калі Facebook збірае і захоўвае інфармацыю пра мае ўпадабанні і кола кантактаў. Але мне яшчэ менш падабаецца тое, што адбываецца ў Беларусі з прывязаным да чарговай хвалі націску на дармаедаў перапісам.

**Віктар Марціновіч, budzma.by**

навіны



# УСТАЛЯВАЛІ ШЫЛЬДУ Ў ГОНАР ЖАЎНЕРАЎ АРМІІ АНДЭРСА

У касцёле Унебаўзяцця найсвяцейшай Панны Марыі ў Мёрах урачыста адкрылі мемарыяльную шыльду ў гонар жаўнераў Арміі Андэрса і іншых вайсковых злучэнняў, якія змагаліся з нацыстамі ў Заходняй Еўропе.

Беларускае Радыё Рацыя, фота Змітра Лупача

# СКРАДЗЕНАЯ Ў ВІЛЬНІ СКУЛЬПТУРА БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЧКІ БУДЗЕ АДНОЎЛЕНАЯ

У вядомым раёне Вільні Зарэчча, па-літоўску Ужупіс, скралі скульптуру беларускай мастачкі Таццяны Тур.

Драўляная кампазіцыя была скрадзена невядомымі яшчэ ў сярэдзіне лета, але толькі нядаўна сама аўтарка, якая цяпер жыве ў Ізраілі, даведалася пра здарэнне. Яна мае планы аднавіць скульптуру: “У жніўні мне паведаміў настаўнік, а затым мая сяброўка, якая была ў Вільні. Зараз, я думаю, няма ніякага сэнсу паведамляць у паліцыю. Я знайду час – месяц-два, каб прыехаць у Вільню і зрабіць наноў гэтую скульптуру і ўсталяваць яе”.

Скульптура была ўсталяваная на мосце, што вядзе ў раён творчай інтэлігенцыі, які называецца “Рэспубліка Зарэчча”. Беларуская мастачка не робіць драмы з крадзяжу яе скульптуры невядомымі, яна лічыць гэта своеасаблівым прызнаннем яе творчасці.

Кастусь Багушэвіч, "Беларускае Радыё Рацыя"



## Беларускі каляндар памятных дат на кастрычнік 2019 года

**2 кастрычніка**
- 95 гадоў таму, у 1924-м, памёр Аляксей Сапуноў, гісторык, археограф.

**3 кастрычніка**
- 130 гадоў таму, у 1889-м, памёр Міхаіл Пятроўскі, грамадскі дзеяч.
- 105 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Лявон Случчанін (сапр. Лявонцій Шпакоўскі), паэт.

**4 кастрычніка**
- 90 гадоў таму, у 1929-м, памёр Пятро Сяўрук, пісьменнік.
- 35 гадоў таму, у 1984-м, памёр Яўген Смаршчок, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі.

**5 кастрычніка**
- 135 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Францішак Грынкевіч, культурны дзеяч.

**6 кастрычніка**
- 15 гадоў таму, у 2004-м, памёр Васіль Мельяновіч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**7 кастрычніка**
- 80 гадоў таму, у 1939-м, расстраляны Раман Скірмунт, палітычны дзеяч.

**9 кастрычніка**
- 15 гадоў таму, у 2004-м, памёр Генадзь Пяткевіч, дзеяч вызваленчага руху.

**10 кастрычніка**
- 280 гадоў таму, у 1739-м, памёр Дамінік Рудніцкі, пісьменнік, педагог.
- 70 гадоў таму, у 1949-м, памёр Аляксандр Данілевіч, педагог, публіцыст.

**11 кастрычніка**
- 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзілася Зінаіда Бандарына, пісьменніца.

**12 кастрычніка**
- 135 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Міхаіл Буклярэвіч, грамадскі дзеяч.

**13 кастрычніка**
- 135 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Баляслаў Пачопка, культурны дзеяч.

**14 кастрычніка**
- 130 гадоў таму, у 1899-м, нарадзіўся Адам Бабарэка, пісьменнік.

**15 кастрычніка**
- 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Сяргей Ракіта (сапр. Законнікаў), паэт.

**16 кастрычніка**
- 25 гадоў таму, у 1994-м, памерла Зоя Коўш, нацыянальны дзеяч у Вільні.

**22 кастрычніка**
- 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Раман Лецка, краязнавец, калекцыянер.

**23 кастрычніка**
- 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Міхась Зуй, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

**24 кастрычніка**
- 155 гадоў таму, у 1864-м, нарадзіўся Аляксей Бялыніцкі-Біруля, заолаг.
- 115 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Марыян Пецюкевіч, этнограф.

**25 кастрычніка**
- 135 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Сяргей Дубінскі, археолаг.
- 85 гадоў таму, у 1934-м, нарадзіўся Карлас Шэрман, пісьменнік.
- 20 гадоў таму, у 1999-м, памерла Надзея Груша (дзяв. Сасноўская), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

**26 кастрычніка**
- 75 гадоў таму, у 1944-м, загінуў Алесь Мілюць, паэт.
- 60 гадоў таму, у 1959-м, нарадзіўся Анатоль Сыс, паэт.
- 20 гадоў таму, у 1999-м, памёр Анатоль Іверс (сапр. Іван Міско), паэт.

**28 кастрычніка**
- 45 гадоў таму, у 1974-м, памёр Рыгор Акулевіч, дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

**Беларусы ў свеце**
№ 9 (208), верасень 2019

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 370-10-12